Год II. Верасень 1933 г. №9 (21).




## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:




# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Верасень 1933 г. № 9 (21.)

# Узьдзьвіжаньне Крыжа Господняга.

*(14 верасьня).*

## Эвангельле

*ПАВОДЛЕ СЬВ. ІОАНА*

*РАЗЬДЗЕЛ 19, 6—11, 13—20, 25—28, 30—35.*

6. Таго часу ўбачылі Хрыста вышэйшыя духоўныя і слугі, закрычалі кажучы: на крыж, на крыж яго! Кажа ім Пілат: вазьмеце вы яго і ўкрыжуйце, бо я ў ім не знаходжу віны.

7. Адказалі яму жыды: мы маем закон, а паводле закону павінен памерці, бо зрабіў з сябе Сына Божага.

8. А калі Пілат пачуў гэтыя словы, яшчэ болей збаяўся.

9. І ўвайшоўшы ізноў у прэторыю, сказаў Ісусу: адкуль ты? Але Ісус ня даў яму адказу.

10. Дык Пілат кажа яму: да мяне не гаворыш? Ці ня ведаеш, што я маю ўладу цябе ўкрыжаваць і маю ўладу цябе пусьціць?

11. Адказаў Ісус: ня меў-бы ты ніякай улады нада мною, калі-б табе ня было дадзена згары, дзеля таго той, хто мяне выдаў табе, мае большы грэх.

13. Дык Пілат, пачуўшы гэтыя словы, вывеў Ісуса вонкі і сеў на судзьдзёўскім пасадзе, на месцы каторае завецца Ліфостротон, а пагэбрайску Гаввафа.

14. А быў дзень прыгатаўленьне Пасхі, каля гадзіны шостае. І кажа жыдом: во цар ваш!

15. Але яны закрычалі: далоў, далоў, на крыж яго! Пілат ім кажа: вашага цара маю ўкрыжаваць? Адказалі вышэйшыя духоўныя: мы ня маем цара толькі кесара.

16. Дык тады выдаў ім яго, каб быў укрыжаваны. І ўзялі Ісуса і павялі.

17. А нясучы для сябе крыж выйшаў на тое месца, якое завецца Кальварыя, а пагэбрайску Галгофа.

18. Там яго ўкрыжавалі і з ім двох другіх па адну і па другую старану, і пасярэдзіне Ісуса.

19. А Пілат напісаў і надпіс і памясьціў на крыжы. А было напісана: Ісус Назарэнскі, цар Жыдоўскі.

20. Гэты надпіс чыталі і многія з жыдоў, бо месца, дзе быў укрыжаваны Ісус, было блізка гораду; а было напісана пажыдоўску, пагрэцку і палацінску.

25. А каля крыжа Ісусавага стаялі матка Ягоная, і сястра маткі Ягонай Марыя Клеофава, і Марыя Магдалена.

26. Калі-ж Ісус убачыў матку і вучня стаячага, каторага ён любіў, кажа мацны сваёй: жанчына, вось сын твой.

27. Потым кажа вучню: вось маці твая. І ад тае часіны ўзяў яе вучань да сябе.

28. Пасьля Ісус, ведаючы, што ўсё даканалася, каб споўнілася Пісаньне, сказаў: Смагну.

30. Калі-ж Ісус прыняў воцат, сказаў: даканалася! — і, схіліўшы галаву, аддаў душу.

31. Дык жыды, затым што быў дзень прыгатаваньня, каб не асталіся целы на крыжы ў суботу —

бо дзень той суботні быў вялікі — прасілі Пілата, каб паперабіваць ім ногі і зьняць.

32. Дык прышлі жаўнеры і перабілі ногі ў гершага і ў другога, што быў з ім укрыжаваны.

33. А калі падыйшлі да Ісуса і ўбачылі, што ён ужо памёр, не перабівалі ў яго ног,

34. але адзін з жаўнераў дзідаю прабіў ягоны бок і зараз-жа выйшла кроў і вада.

35. І той, што відзеў, даў пасьведчаньне і пасьведчаньне ягонае ёсьць праўдзівае. І ён ведае, што праўда гаворыць, каб і вы верылі.

---

Сёньня вялікае сьвята, сьвята Узьдзьвіжаньня Крыжа Гасподняга. На Утрані адбылася вельмі прыгожая цэрамонія ўзьдзьвіжаньня крыжа.

На самым пачатку навукі на сяньняшні ўрачысты дзень раскажу гісторыю паўстаньня сяньняшняга сьвята, а пасьля скажу, чым ёсьць крыж для кожнага хрысьціяніна і як трэба яго паважаць.

З самага пачатку хрысьціянства ня ведама было, дзе ёсьць той крыж, на якім Збаўца даканаў збаўленьня роду чалавечага. Пасьля дзіўнага відзеньня, якое меў імпэратар Канстантын, пасьля асягнутай вялікай перамогі над Максэнціем на рацэ Тыбры каля мосту Мільвіо, Сьвятая Алена, матка Канстантына, пажадала знайсьці Крыж Збаўцы. У 326 годзе сьвятая царыца цудоўным спосабам знайшла гэты крыж. З сьвятым Макарым, Патрыярхам Канстантынопальскім, выставіла сьвятая Алена Крыж Збаўцы для паважаньня яго, а калі натоўп людзей быў так вялікі, што немагчыма было для ўсіх падыйсьці да крыжа і аддаць яму чэсьць, тады крыж Збаўцы быў узьдзьвіжаны ўгару, усе пры гэтым прысутныя ўпалі на зямлю, убачыўшы Спасаў Крыж і аддалі яму належную чэсьць.

У 614 годзе вялікая сьвятасьць хрысьціян — Крыж Збаўцы быў схоплены царом пэрсідзкім Хозроем і вывезены ў Пэрсію. Якая-ж радасьць была хрысьціян, калі ў 628 годзе імпэратар Гэраклі дабіўся ў цара пэрсідзкага Сіроя, каб той аддаў назад крыж Спасаў. З вялікаю радасьцю і чэсьцяю прывіталі хрысьціяне крыж, на каторым даканалася збаўленьне ад мукаў вечных.

Хрысьціяне ня толькі крыж, на каторым памёр Збаўца, паважаюць, але кожны, ці то зроблены, ці толькі нарысованы паважаюць, бо кожны крыж прыпамінае нам вялікую любоў і вялікую дзеля нас ахвяру Сына Божага Ісуса Хрыста. Праз гэта паважаньне крыжа мы таксама выяўляем нашу любоў і ўдзячнасьць Госпаду Нашаму Ісусу Хрысту. Такое паважаньне было ў хрысьціян заўсёды, ад самага пачатку хрысьціянства.

У 8 стагодзьдзі паўстала вельмі небясьпечная гэрэзія іконаборцаў. Іконаборцы выступалі проці паважаньня іконаў і крыжоў. На сусьветным саборы ў Нікеі ў 787 годзе айцамі сабору было пастаноўлена, што паважаньне іконаў і крыжа Гасподняга ня ёсьць ідалапаклонствам, бо паважаецца не матэрыя або мэталь, з якога ікона або крыж зроблены, але сьвяты або Збаўца, які на гэтым матэрыяле прадстаўлены. Пасьля перамогі над гэрэзіяй іконаборцаў паважаньне іконаў і ў асаблівасьці крыжа Гасподняга яшчэ больш павялічылася, і цяпер на Усходзе мы бачым гэткае глыбокае паважаньне крыжа на Узьдзьвіжаньне, якога няма на хрысьціянскім Захадзе.

І ў нашыя часы розныя гэрэтыкі і бязбожнікі жадаюць абясчэсьціць і абясчэшчваюць сьцяг хрысьціян — сьвяты крыж. У Расеі бязбожныя камуністыя зьбіраюць па царквах і часоўнях крыжы, зносяць на пляцы і паляць. Прыглядаецца да гэткага вогнішча жыд-камуністы і здаволены сьмяецца. Вось, як далі ашукаць сябе безразумныя хрысьціяне, што выракліся свайго сьцягу і, на радасьць ворагаў хрысьціянства, паляць яго.

У ў нас, у Польшчы, часта здараліся выпадкі, што бязбожная паганая рука якога-нібудзь камуністага ніштожыла сьвяты крыж, сьвяты штандар хрысьціян.

У Петраградзе ёсьць вялікі вастрог, які называецца „Крэсты“, бо складаецца з двох будынкаў, якія маюць форму крыжа. Давялося мне некалькі раз, за апошнія часы бальшавіцкае „свабоды“, быць нявольным жыхаром гэтага вастрогу. Аднаго разу ў падвале, паміж living рэчамі, выкінутымі як непатрэбны хлам, знайшоў я крыж вялікі, каторы стаяў калісьці ў царкве. Забраў я гэты крыж і паставіў да іншае царквы, ізноў яму веруючыя хрысьціяне пакланяюцца, паважаюць яго. Тымчасам зьніштожылі партрэты Троцкага, зьніштожаць таксама і партрэты Леніна, а крыж Збаўцы будзе паважацца да апошняга суда.

Крыж для хрысьціяніна ня толькі дарагі штандар, але таксама неадсутны і верны падарожнік. Крыжом хрысьціянін пачынае свой жыцьцёвы шлях: прыймае хрост знакам крыжа і крыж укладвае яму сьвяшчэньнік на грудзі. Пась-

ля ў жыцьці ўсе таінствы хрысьціянін прыймае знакам крыжа: адпушчэньне грахоў на споведзі, сьвятое Прычасьце, жаніцьбу. А калі чалавек цяжка захварэе, выб'е для яго апошняя гадзіна, тады прыходзіць да яго сьвяшчэньнік і дае яму на дарогу да іншага жыцьця вечнага знакам крыжа сьв. Прычасьце і сьв. алеем апошняе памазаньне (сабораваньне), і хрысьціянін, трымаючы ў руках свайго неадсутнага падарожніка — сьвяты крыж, аддае апошні ўздых Госпаду Богу.

Неадсутны падарожнік і па сьмерці не пакідае хрысьціяніна: калі скамянелае цела паложаць у труну, дык крыж стане за галавой нябожчыка. Пасьля малітвы ў хаце, панясуць нябожчыка на могілкі, — а крыж пайдзе ўперадзе. На могілках яшчэ кароткая малітва, плач і сьлёзы дарагіх асоб і прыяцялёў, а пасьля ўсе разыйдуцца па сваіх хатах, каб у хуткім часе забыць нябожчыка. А крыж? О, гэты неадсутны і верны падарожнік не пакіне чалавека! Ён адзін застанецца, ўваткнуты ў магілу, як верны і неадсутны прыяцель.

І яшчэ раз зазіхаціць штандар хрысьціян, — сьвяты крыж на апошнім судзе. Для тых, што паважалі крыж у жыцьці, гэты крыж ня будзе страшным, будзе для іх задаткам уваскрасеньня да жыцьця вечнага.

Дык паважайма-ж Крыж Гасподні, праз каторы мы атрымалі збаўленьне. Асабліва ў нашыя сумныя часы, калі так часта сьвяты крыж бывае бясчэшчаны, зьневажаны, з вялікаю любоўю цалуйма крыж Збаўцы і, аддаючы зямны паклон у сяньняшнюю ўрачыстасьць, ад усяе душы і ад усяго сэрца засьпявайма: **„Кресту Твоему поклоняемся, Владыко, и святое воскресеніе Твое славимъ“. Амін.**

*а. Антоні.*



Г. Кастэльнік.

# Вялікія людзі.

*(З біблійнага музэю апавяданьні).*

### Вялікія чыны Матафіі Макавея.

— Згінь ты, прападзі, цар паганскі Антыох —паклоньнік Сатаны!

— Хай праклята будзе імя тваё з роду ў род!

— Хай падзе ён ад меча Ізраілевага!

— Хай заплачуць над трупам яго жонка і дзеці — як дочкі Ізраіля!

— О, Ягвэ! Ці чуеш кліч твайго народу, разьбітага, расьцёртага царскімі жорнамі, царскаю сілаю на загібель празначанага, канаючага твайго народу?

— Споўні ягоныя праклёны! Споўні яго прагнасьць жыцьця!

* * *

Так уздыхаў увесь Ізраіль, калі душыў яго цар Антыох, калі жалезнымі путамі ды разьніцкімі нажамі забажыўся зьмяніць яго аблічча. Бо прысягнуў быў Антыох: „Ізраілю не здабраваць!“ і намогся царскаю сваей сілай, каб словы гэныя выканаць. Але ніхто ня чуў стогнаў Ізраіля, бо тыя стогны аставаліся ў тайне, ў сэрцах у замкнутых хатах, ў недасьледных укрыцьцях... І нават паплечнікі Антыоха гаварылі:„Ізраіль задаволены і вялікаму цару ўдзячны, ён сам хоча свае гібелі!...“

Яшчэ і вышукалі яны двух-трох з Ізраіля, падкупілі іх, і прыказалі паўтараць гэта прад цэлым народам.

І так ніхто ня чуў стогнаў Ізраіля і яго нараканьня. Гінулі дзеці Ізраілевы, але гінулі, бы дурныя авечкі. Ніхто не адчуваў сіл, што заломліваліся пры іх сьмерці, бо іх сьмерць была безвартасная. Пад варожаю царскаю сілай пачуваўся Ізраіль, бы вада пад лёдам. Чым таўсьцейшы быў лёд, тым больш душылася вада пад яго націскам.

Дык стала вада бараніць сваю прыроду, перадавала сваю натугу ад часткі да часткі, аж уся сіла яе сабралася ў адным месцы... І трэснуў тоўсты лёд і зашумела вольная вада, гатовая да барацьбы, да перамогі... як на прадвесьні, калі плывуць зломы ледзяных крыгаў.

— Згінь ты—прападзі, цар паганскі, Антыох — слуга шатанскі! — Закрычаў Матафія, ўцякач з Ерузаліму, пер-

шасьвятарнік, князь, каторы ў вачох на‘т сьмерці астаўся верным запаветам сваіх бацькоў. І пачуў гэна ўвесь сьвет, а Антыох ад страху здрыгануўся...

Матафія быў тым, у душы каторага сабралася ўся сіла народу, загарэлася і парвала кайданы няволі. І як адбіваецца марская хваля ад берагу ды назад кідаецца ў мора і патрасае ім, — так сіла народу адбілася ад сэрца Матафіі ды кінулася зноў у народ, каб яго разбудзіці:

— Сьмерць кожнаму, хто паганіць і руйнуець дом Ізраілеў!

— Хто верны запаветам бацькоў—хай ідзе за мною!

Гара гарэ, скала скале, а дрэва дрэву перадавала кліч Матафіі:

— Хто верны волі бацькоў, хай ідзе за мною: у горы, ў пустыню, ў недаступныя месцы, — вызваляць Ізраіля!..

* * *

— Ерузалім, сьвяты Ерузалім стаўся чужым сваім дзецям! Божы Ерузалім стаў гняздом паганцаў!

— Яго руіны валяцца на Ізраіля і жадаюць ягонай сьмерці!

— Ерузалім – наша сьвятасьць, а цяпер наша сплюгаўленьне!

— Ерузалім—наша сэрца, а цяпер нож у сэрцы!

— Ерузалім — нашая сіла, а цяпер сіла проціў нас

Лементаваў стары Матафія перад сваімі пяцьма сынамі і перад усімі, што ўцякалі з імі ў горы... і плакаў, я дзіця, згубіўшае маці.

— Дзеці! — з сьлязьмі прамаўляў Матафія да сваебяздольнае дружыны, — вы ведаеце, як я ўцёк з Ерузаліму ад рукі цара-паганца. Уцёк я на самую граніцу паганскай зямлі ў мястэчка Модэн, бо думаў, што не дайдзе да мяне царская лютасьць, а калі і дайдзе, дык не заўважыць мяне... Ды ці-ж ня прышоў за мною паганец, ці ня вышукваў мяне і не спакушаў дзьябальскамі словамі: „Ты першы ў сваім народзе, сьвятар і князь — пакланіся бажком і будзеш прыяцелем цару — ты і твае дзеці!...“ Вы ведаеце, як узбурылася ўва мне сэрца і расьсёк мечам таго спакусьніка а вы пабілі яго спадручнікаў.

Цяпер-жа ўцямце добра, што з ім дзеецца. З чэсных людзей сталі мы бязчэснымі, бо чэснасьць і закон заступае сяньня цар паганец, каторы бясчэсьце называець чэсьцю, а беззаконнасьць — законам. З вольных жыхароў сталіся мы моў лясныя зьвяры, на якіх паляваціміуць па гэтых горах. І сюды, аж сюды яны прыйдуць за намі!

Паганцы ненасытныя! Мы для іх, як дзікія зьвяры, каторых яны хочуць ласьліва зжорці. Яны для нас —сьмерць

Дзеці мае! Разумейце добра, што дзеецца з намі! Ці наша жыцьцё дарагое! Што-ж яно значыць?

Шляхі і палі ізраільскія ўсланыя найлепшымі сынамі Якава... Хто жадае жыць, хай гэтага не забывае! Вясельле ў Ізраілі сяньня, бы хаўтуры, моладасьць, бы старасьць... Хто з вас, маладых, думае пра жанімства,—хай таксама таго не забывае! Не жаніцца сяньня малэйчыку, матцы не надзеяцца, ратаю ня зьбіраці з поля, а Ізраілю ня прыносіць ахвяры, бо храм сьвяты спалены і сплюгаўлены... Расьціна Ізраіля падцятая ўсыхае... Дык ці варта жыць, гледзячы на сьмерць дому Якава? Ці жыцьцё нашае ня ёсьць ужо ўміраньнем?... Дзеці! Вы здаровыя пасынкі ізраілевага дрэва, адцятыя ад карэньня! Зарыйцеся тутака ў зямлю, а так ухаваеце жыцьцё ў доме Якава! Так дрэўца Якава пусьціць новыя карэньні і разрасьцецца!

Няма выбару! Мусім перамагчы сьмерць, або чэсна згінуць!... Ягвэ няхай судзіць! Ці прысягаеце, што бароцімецесь процiў паганцаў да ўпаду?

— Прысягаем!

Ці вам даражэйшая сьмерць, як жыцьцёмучэньне ў паганскай няволі?

— Прысягаем!

Ягвэ чуў, Ягвэ няхай судзіць!

—Ад дня сяньняшняга вы адважныя хваты, а ня трусьлівыя ўцекачы! – прыцьвярдзіў Матафія і дакончыў прысягу.

* * *

А ноч была ў той час, першая ноч бяздольных уцекачоў у недаступных горах. Які дзіўны быў іх выгляд пры бледным месячным асьвятленьні! Ня то—людзі, ня то—львы! Штось, што зьмяняла сваю постаць, што насіла на сабе ўсе азнакі сьмерці, а ў нутры сваім новы зародак жыцьця, бы збутвелае, прарастаючае зерне ў зямлі... Змучаныя, абарваныя, з некалькімі асламі, з малымі і большымі клункамі, бяз ніякіх ваенных прыладаў, бяздольныя ўцекачы адважыліся выступіць процiў валадарскае сілы, падняць вызвольную барацьбу з гэтых вось горскіх укрыцьцяў. А там, там на далінах пакінулі яны ўсё сваё багацтва, людзкую выгоду і значэньне. Цяпер паганец паліць іх дамы, катуець іх бацькаўшчыну, грабіць набытак... Там на далінах жалезная сіла цара-паганца ды разьбіты Ізраіль...

Што значыла гэтая скромная грамадка бяздольных уцекачоў? Неба толькі ведала і бачыла тайну душ ды разумела іх веліч і сілу.

— Но, Дзеткі, вось ужо глыбокая ноч, кладзецеся вы спаць, а я старажыціму, — сказаў Матафія.

— Так выпадае! Я пачаў, я мушу і ўцьвярдзіць пачын дзела — вам прыдзецца кончыць яго, як я ня здужаю. Бо наша дзела вялікае і нялёгкае, але сільныя духам усё пераможуць.

І заснула струджаная дружына, а Матафія старажыў— хадзіў наўкола з абнажоным мечам у руццэ.

Ерузалім, сьвяты Ерузалім стаў чужым сваім дзецям — стаўся іх ворагам! — Раз за разам уздыхаў Матафія і паглядаў на бледны месяц, як-бы ў ім угледзець меў самога Ягвэ, і хацеў спрачацца з Ім за долю Ерузаліму...

Як жывы стаяў перад ім даўны Ерузалім — той ізраільскі, сьвяты, рухлівы, багаты, цьвітучы Ерузалім.

Вось дзень сьвяты ў Ерузаліме. Божая сьвятыня зьяе на сонцы. — Трубяць сьвяточныя трубы, выходзяць сьвятары, ўрачыста адзетыя. Матафія між імі першы. Звоняць званочкі на яго першасьвятарнай адзежы, блішчаць дванаццаць дарагіх каменьняў на грудзях яго, а залатая мітра на галаве. Рыкае быдла, бляюць авечкі, празначаныя на ахвяры. Дымяць ахвярнікі, люд Божы весяліцца. Вуліцы Ерузаліму жывуць варушацца, а па іх плыве народ, бы рэкі пасьля дажджу.

Ідуць князі — дастойнікі народу, купцы, рамесьнікі хлебаробы, старцы, мужчыны і дзеці. Душа радуецца! Усё Ізраіль — усё для Ягвэ!

Між радамі праходжых цьвіце жаночая краса, шалахціць на іх каштоўная адзежа. Дзяўчаты, бы кветкі між лістамі на яблыні. Душа поўна радасьці! Усе камяніцы ў парадку, на сваім месцы, прыгожыя, спакойныя, прыглядаюцца да праходжых і, казаў-бы, ажываюць пад сьвяточным полыхам жыцьця. На сваім месцы стаіць Дом Божы і вітае сваіх дзяцей, што к яму зближаюцца. Слухае псальмаў, зьбірае народнае багацтва, золата і серабро, і спакойна пера хоўвае яго —гэтую запаруку для заўтрашняга дабрабыту і славы Ізраіля. Кожны твар, кожнае слова сьведчыць аб Ізраілі.

Матафія ў рызах першасьвятарніка, ўсьцешаны, засылае малітвы да Ягвэ: „Ты наш Бог, а мы Твой народ!“

— А да народу:„Бог наш—цьвярдыня нашая! Хвалеце Яго валадары ўсе і судзьдзі зямныя, маладыя малойчыкі і дзявіцы, і старцы з дзяцьмі! Слаўце Імя Божае! Алелюя!...“

Аж раптам перад вачыма Матафіі, таго ўцекача ў горах, стаў другі Ерузалім — той цяперашні, спустошаны, з руінамі сьвятыні, з балванамі агіднай Астарты на «месцы найсьвяцейшым», цяперашні Ерузалім з паганцамі, што ўла-

ду маюць, са здраднікамі, што падлашчваюцца да паганцаў і прыкідаюцца паганцамі...

— Ох, Ягвэ! — задрыгацеў Матафія ўвесь чыста.

— Ягвэ! Чаму Ты пазволіў так зьняславіць сябе і свой народ! Хочаш нашае сьмерці, бо мы нягодныя, то памру, але захавай славу сваю ў маім народзе! — Хочаш нашага адраджэньня і вызваленьня, дык памажы! Твая воля—тайніца! Але душа маіх бацькоў хоча жыць далей! Я хачу новага Ерузаліму —трэйцяга, слаўнага, вольнага, сьвятога, ізраільскага!

— Ерузаліме, сьвяты Ерузаліме!

— Ці мая мэта згодная з тваёю? Ці загадваеш мне наступаць? — пытаўся Матафія і глядзеў на месяц маўклівы, як і тая скала, да каторай апёршыся стаяў Матафія.

Але нявідочны ангел Божы, што праваджаў Матафіеву дружыну, ціха бязгучна гаварыў да душы Матафіевай:

— Наступай!!

І прадзіралася гэтае слова цераз усю глыбіню душы— дый неўгамонным рэхам адбівалася: Наступай!... Наступай!..

А з душы перакінулася гэтае слова ў сьвет шырокі.. Скалы, дрэвы ў лесе, месяц і зоры нябесныя гаманілі: Наступай!.. Наступай!..

* * *

Матафіева дружына насіла ўжо ў сабе раны з барацьбы за свабоду. Ужо была не ўчарашняя, а набрала досьледу на сваім крывавым шляху. Тысячы мужоў з яе радоў паганцы ўжо засеклі, бы ягняты безбаронныя, бо ўцекачы з любові да веры сказалі: „Сяньня субота, годзі нам бараніцца!“Гэта паганцам было на руку, і напалі яны на паўстанцаў, ня гледзячы на дні суботнія.

Але калі Матафія ўсё расталкаваў у сваёй галаве дык рашыў: „Субота, ня субота — а барацьба за Госпада Сабату усьвячае ўсякі дзень!“ — І змагаліся буйныя сьмельчакі —сыны Ізраіля —так, як прысягнулі, а страх ня меў доступу да іх сэрца. І ўжо незабаўна— паганцы насілі шнары ад мечаў і пікаў адважных паўстанцаў — вызвольнікаў Бацькаўшчыны...

Ваенныя ўдачы прыносілі Матафіі славу і сілу. Пераканаўся ён, што сіла адпіраецца толькі сілаю, сьмерць перамагаецца толькі пагрозаю сьмерці. І дзе толькі зайшоў у якую-нібудзь ізраільскую мясцовасьць — там, прыгражаючы сьмерцю, браў малайцоў у свае рады. Зразумеў тое Матафія, што *запраўдных ідэалістаў у кожным народзе мала, большасьць-жа жыве пад напрам мамэнту і абставінаў.* Восьжа добра, каб тыя ідэальнейшыя ў народзе націскалі на агул і цягнулі яго за сабою; інача[й] націскацімуць на масы тыя горшыя і цягнуцімуць яго за сабою ў прорву.

— Так дружына Матафіі расла, дужэла і ўфармавалася, бы войска. Дзесятнікі, сотнікі і тысячнікі ўжо камандавалі. Устанавілася правільная вайсковая ўлада, камандаваньне, вайсковая дысцыпліна: „Памры, а ня ўступі“!...

Бліскалі на сонцы, стырчэлі дзіды, пагойдваліся сагайдакі ў руках стральцоў. А надзея ў войску расла і крапчэла.

* * *

Але вось настала другая ноч—ноч перад боем з паганскім войскам. Матафіева войска адпачывала, набірала сіл да лютае барацьбы. Навакол лягеру стаялі вартаўнікі, а Матафія хадзіў па лягеры дый усё разглядаў, разважаў.

— Ягвэ, надзея Ізраілева! Зьніштожыць хачу паганцаў да астатку, выкараніць з роднай зямлі! О, малю Цябе, памажы мне! Знайду цара, — паганца хоць на краі сьвету! Сьвяты Ерузалім сьвяціціме зноў на зямлі, як на небе сонейка... і прыжануць да яго нявольнікаў з усіх канцоў зямлі, як Ізраіля гналі ў Асырыю і Бабілёнію... Але я ўжо стары, ці здужаю гэта зрабіць? Сымоне, дарагі сыне, сіла і падпора бацькава, ты мяне заступіш! Юда, сыне мой дарагенькі, надзея мая, ты мяне выручыш! Але славе ізраілевай быць паводле слоў прарокаў!

Душа гарэла ў Матафіі, і паглядаў ён на месяц нямы на небе, як-бы хацеў самога Бога ў ім угледзець ды спытацца пра Яго волю і прадбачаньне...

А Божы Ангел, правадыр Матафіевай дружыны, шаптаў ягонай душы:

— Канчай сваё дзела, Матафія! Усё станецца, чаго ты жадаеш, але ня так, як ты хочаш! Дастанеш і менш і больш як хочаш, бо такая ўжо доля ўсіх патужнікаў — спачынцаў! Бог ня хоча, каб Яму людзі дыктавалі будучыну, каб не здавалася, што яны валадаюць, а ня Ён... Аднак людзкія чыны і гарачыя маленьні перад Богам заважваюць... Прыдуць у Ерузалім паклоньнікі з усяго сьвету... цераз ўсе вякі прыходзіцімуць... Гэта будзе больш, як ты хочаш і зможаш хацець! Але гэта будзе ад Бога, а не ад цябе і тваіх сыноў...Твае дзеці, як перамогуць ворагаў - самі забівацімуцца між сабою... Вялікія думкі, якія ты ім пакінеш у спадчыне, вырадзяцца ў іх... Твае сыны спаганеюць у славе, цьвіласьцю перасякнуць...І служыцімуць ня жыцьцю і Таму, хто яго стварыў, а той-жа гнільнай нарасьці, што зжырае жыцьцё... І, як сваё споўняць, прападуць навекі... А яшчэ на‘т іх пасьмертны цень расьсяваціме гора ў народзе... яшчэ якое гора — Матафія, — табе і цераз думку на‘т ня прыходзіць! Усё гора, ўся бяда, расьсеяная па ўсіх вякох гісторыі твайго народу, зьбярэцца і зваліцца на яго ў адным часе... Вось гэта будзе менш, як ты хочаш!

Але з астанкаў Ізраіля выйдзе сіла і слава—без аруж-

жа, ціха, няпрыметна, як і ўсё, што толькі з зерняці рась-це. Гэта Божая тайна, Божая справа...А ты канчай сваё!

Матафія! Тваё дзела вялікае—ня можа быць ужо большае за яго людзкое дзела! Бо калі іншыя рассыпаліся пад цяжарам Божай рукі, як пыл — пра цябе Тварэц сказаў: „Добры!“

Дык споўні сваё дзела!

* * *

Міналі гады, вякі і тысячалецьці ў душы Матафіі, як слухаў ён гэтыя словы Божага ангела. Ён папросту трацілся —блудзіў у бурных часінах непраглядных вякоў і іх кругаваротаў ды патопаў, але зноў і зноў выплываў наверх з адною цьвёрдаю думкаю і мэтай:

— Сьвяты Ерузалім у няволі! Душу сваю палажу за яго свабоду!

* * *

Сталася так, як Матафія жадаў і як Божы Ангел прырок. І празвалі Матафію: „Макавеем,“гэта значыць: „Молатам.“—„Нічога новага пад сонцам“ —гласіў калісь біблійны мудрэц. Ня мала было такіх дзеячоў — патужнікаў, як Матафія, ды ня ўсе дасягнулі прозьвішча «Макавей.»Ня ўсім так павялося дзела, бо ня ўсе ўмелі сьціснуць зубы і сказаць праціўніку: „Я цябе ператрываю!“ Ня мелі другія такога агню ў душы, як меў Матафія Макавей, каб непамысныя цёмныя часіны *раскладаць на пяру і пасылаць іх небу*: „Хай там Бог з імі робіць, што хоча, — а я сваё зрабіць мушу!...“

Пераклаў *Надбужны.*

---

# *УСЁ МЯНЯЕЦЦА*

*Раніцай летняю сонца ружовае*
*З блескам ірдзістым ўзыйшло,*
*Радасьць жыцьця прынясло.*
*Неба убралася ў сукні шаўковыя,*
*У вопраткі сьветлыя, ясна бліскучыя,*
*Новага летняга дня, —*
*Як-бы сабрана на балі радня*
*Слала усьмехі мілыя, ветлыя.*
*З сонца усходам зорачка ясная,*
*Новастваронай душы,*

*К жыцьцю паўстала ў цішы, —*
*Сярод убогае вёскі няшчаснае.*
*Сонца на небе ўгару падымалася,*
*Дзіця у вёсцы расло, гадавалася,*
*Сонца іскрылася радасьцю ветлаю,*
*Дзіця малілася душою сьветлаю.*
*Але пад поўдзень хмара стварылася*
*І сонца яснае ёю закрылася*
*Сваю красу-спакой неба пакінула,*
*Бо вось страшэнная бура нахлынула.*
*І затуманіліcь вочы дзяцінныя,*
*Бо юнасьць бурная ў сэрцы зьявілася,*
*Ужо ня цікавяць больш ігры нявінныя,*
*Бо душа хмарамі грэху акрылася.*
*Аднак на сьвеце усё мінаецца:*
*З хмары халоднае дождж цёплы падае,*
*Ночанька цёмная ў дзень замяняецца, —*
*І сонца, вымыўшысь, выляне радае.*
*І душа бедная, грэху нявольніца,*
*Як ідзе ў цэркаўку і шчыра моліцца,*
*А памаліўшыся ўжо спавядаецца,*
*Тады да радасьці дзецкай вяртаецца.*
*Сонца хаваецца ужо на захадзе.*
*Людзі звычайныя варожаць загадзя,*
*Калі з пагодаю сонца схаваецца,*
*Тады пагоднае заўтра чакаецца;*
*Калі-ж хаваецца у хмары цёмныя,*
*Тады чакаюцца буры агромныя.*
*Ёсьць штось падобнае з душою нашаю,*
*Калі чакаецца сьмерці з распачаю*
*І перад сьмерцю на‘т не раскаецца,*
*Тады звычайна ёсьць, не ашукаецца,*
*Хто ёй зварожыць вечнасьць няшчасную.*
*Ох, як-жа шкода ёсьць душачку ясную.*
*Калі забудзе то‘, што ўсе мяняецца*
*Што з хмары зімняе дождж цёплы падае,*
*Што ночка цёмная днём замяняецца*
*І сонца, вымыўшысь, выляне радае.*

*Ул. Бернякові́ч.*

# Сялявічы.

Давялося мне адведаць вёску Сялявічы, Слонімскага пав. Запрасіў мяне да сябе памагчы яму а. Мончка, настаяцель сялявіцкае парафіі на 15 і 16 жніўня г. г. Чуў я нешта аб Сялявічах перад гэтым, апісвае стойкасьць веры селявічан наш поэт Ф. Багушэвіч у „Беларускай Дудцы“.

Пасьля набажэнства запытаў я старыкоў, выйшаўшых з касьцёла: „Ці помніце сьвятую унію, а мо‘ давялося катораму з вас пацярпець за сьвятую каталіцкую веру?“

— Чаму не, — ад'зываюцца, — помнім унію, і амаль кожны з нас шмат пацярпеў за веру айцоў.

— Я, — кажа адзін старык, — за тое, што не хацеў нясьці да адшчапенцаў хрысьціць дзіця, са ўсёю сваёю сям'ёю быў арыштованы і пасаджаны ў вастрог. Трымалі нас год і 3 месяцы. З намі была пасаджана ў вастрог і мая матка, старушка 70-летняя.

Расказвае старык і бачу на вачох яго сьлёзы, цяжка яму нават і ўспамінаць пераж ытыя мукі.

— А мяне паліцыянты білі за тое, што на Макавея працаваў у полі — ад'зываецца другі.

— Аднаго з нашых, — ад'зываецца трэці, — прывязалі да каня, а потым, паганяючы каня і б'ючы пугаю чалавека, зьдзекаваліся над ім.

Усе прасьледаваньні і зьдзекі не перамаглі веры селявічан. Хаця зьмянілі абрад (бо ня можна было інакш), прыймаючы лацінскі, але не адступілі ад веры каталіцкае.

У ваколічных вёсках таксама была калісьці сьвятая Унія, таксама дзяды і прадзеды ня мала цярпелі, але ня вытрымалі, пазволілі адшчапенцам хрысьціць сваіх дзяцей. З гэтых дзяцей, дзяцей мучанікаў за сьвятую унію, паўсталі ворагі сьвятога злучэньня з каталіцкай царквой.

Браты беларусы, мінулі ўжо часы прасьледаваньня і зьдзекаў за сьвятую веру. Падумайце, да чаго давялі вас адшчапенцы, ці не ляпей вярнуцца да веры айцоў?

**а. Антоні.**

---

# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**1. Пінск.** 7—8 верасьня мае адбыцца IV унійная канфэрэнцыя духавенства. З праграмы відаць, што будуць там прачытаны вельмі цікавыя лекцыі навуковага і практычнага характару ведамымі вучонымі і унійнымі дзеячамі, як напрыклад а. Урбан, рэдактар „Oriens‘у“, а. Сліпый, Рэктар Львоўскай Акадэміі і іншыя.

**2. Дубно.** Рэктар Папскае Усходняе Сэмінарыі ў Дубне а. Антоні Дуброўскі ёсьць адначасна назначаны Пратаігуменам Усходняе Місіі Айцоў Езуітаў. Да Сэмінарыі на рукі

а. Рэктара паступіла шмат просьбаў аб прыняцьці, але ня ўсе жадаючыя паступіць будуць прынятыя, бо адчуваецца недахоп месца.

**3. Альбэртын.** 17 ліпня прыехаў да а.а. Езуітаў у Альбэртыне Яго Правял. Ўладыка Мікалай Чарнэцкі, прабыў тыдзень, за гэты час высьвяціў на дыякана а. Ангэла, капуцына, і 2 іпадыяканаў Адольфа Шніпа і Іоана Літвінскага, схалястыкаў Таварыства Ісусавага з Боболянум у Любліне.

**4. Кракаў.** Ведамы абаронца унійнае працы а. Іоан Урбан злажыў з сябе абавязкі рэдактара навуковае часопісі: „Przegląd Powszechny", каб цалком аддацца справе унійнай, рэдагуючы „Oriens". Мы цешымся, што Вельмі Паважаны а. Рэдактар мае магчымасьць цалком цяпер аддацца унійнай справе, каторую так добра знае і ўсім сэрцам яе любіць.

**5. Сынкавічы.** У Сынкавічах 17 жніўня наступіла зьмена на становішчы настаяцеля прыходу. Дасюлешні настаяцель а. Маркел Высакінскі пакінуў прыход, дзе больш як 7 гадоў з вялікім пасьвячэньнем працаваў, як праўдзівы місіянэр. Цяпер ён перанесены на настаяцеля прыходу ў Альбэртыне, там трошкі падрапаруе сваё здароўе.

На месца а. Высакінскага да Сынкавіч назначаны а. Антоні Неманцэвіч, які з вялікім жалем пакінуў Альбэртын, каторы так палюбіў. Займаючы становішча настаяцеля прыходу ў Сынкавічах, адначасна застаецца рэдактарам часопісі „Да Злучэньня", якую дасюль рэдагаваў.

**6. Пінск.** На ўрачыстасьць Усьпеньня Найсьвяцейшае Дзевы Марыі 15 жніўня г. г. адбылася ў Пінску кансэкрацыя першага вікарнага япіскапа Пінскае Епархіі Я. Пр. Кароля Няміры. Кансэкраваў Я. Пр. Япіскап Казімір Букраба супольна з япіскапамі Дэмбкам і Томчакам.

Жадаем новаму Япіскапу ад усяго сэрца, каб на высокім становішчы змог многа зрабіць на славу Божую і для збаўленьня. Хай Госпад Бог дасьць Новаму Ўладыцы ў шчасьці і здароўі Многія Леты.

**7. Варшава.** (КАП.—17.VIII.1933) **Навярненьне і сьмерць японскага пасланьніка ў Варшаве.** У панядзелак 14 г. м. а 1 гадзіне паведамілі праз тэлефон, што японскі пасланьнік Тіроукі Каваі, цяжка хворы, канае. Апостальскі Нунцы, які быў у прыяцельскіх адносінах з японскім пасланьнікам, якнайхутчэй паехаў са сваім аўдытарам і сэкрэтаром да санаторыі ў Отвоцку. Знайшоў хворага ў вялікай небясьпецы жыцьця, але зусім яшчэ прытомнага. У часе рэлігійнае гутаркі пасланьнік выявіў гатоўнасьць прыняцьця сьв. Хросту, які зараз-жа даў яму Нунцы, даючы яму імя Францішак. Пры разьвітаньні новаахрышчаны выказаў сваю вялікую радасьць, што памірае каталіком. А 8 гадзіне ўвечары

гэтага-ж дня японскі пасланьнік памёр. 17 г. м. адбылося за яго душу вельмі ўрачыстае жалобнае набажэнства ў касьцёле сьв. Крыжа; нябожчык пахаваны на повонзкаўскіх могілках у Варшаве.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**1. Горад Ватыкан** (КАП—8.VIII.1933). **Новы цуд ў Люрдзе (Lourdes).** У Люрдзе здарылася новае цудоўнае выздараўленьне. Выздараўленым быў а. Лёшэ (Lochet), з Брэтаніі, 53 гадоў. Сьвяшчэньнік Лёшэ быў амаль праз усю вайну на фронце і быў некалькі разоў ранены. За адвагу атрымаў Ганаровую Легію і многа іншых ад'значэньняў. Пад канец вайны, у часе нямецкага наступленьня, па прычыне атручэньня газамі, захварэў на сухоты, якія зрабіліся адкрытымі, так што ня было ніякай надзеі ўратаваць заслужанага сьвяшчэньніка. Дзеля таго, што немагчыма было ратаваць лекарскімі сродкамі, прывязьлі яго ў Люрд, і тутака, па апушчэньні яго да ставу, наступіла раптоўнае і поўнае выздараўленьне. Таго-ж самага дня а. Лёшэ пайшоў на лекарскія досьледы, каторыя выказалі, што яшчэ дзень назад адкрытыя кавэрны ў лёгкіх цяпер зусім загоеныя.

Цудоўнае выздараўленьне зрабіла вялікае ўражаньне на многіх турыстаў і шырокім рэхам адбілася ўва ўсім французскім грамадзянстве.

**2. Парыж** (КАП. — 12.VIII.1933). **Япіскап Слоскан просіць маліцца за Расею.** Люрд адведаў апошнім часам япіскап Слоскан, былы апостальскі адміністратар (кіраўнік) на Менск і Магілеў, каторага бальшавікі пратрымалі 5 лет на Салавецкіх астравох і ў Сыбіры. Прамаўляючы да натоўпу паломнікаў, япіскап Слоскан сказаў, што з наказу Сьвятога Айца просіць усіх маліцца, каб Расея якнайхутчэй была збаўлена ад свае галіты духоўнае, моральнае і матар'яльнае.

**3. Рыга** (КАП. — 16.VIII.1933). **Новы пераклад Сьв. Пісаньня на латыскую мову.** Толькі што выйшаў з друкарні новы і першы пераклад Эвангэльля і Апостальскіх Дзеяньняў палатыску (латгальскае нарэчча). Пераклад зрабіў з грэцкага арыгіналу разам з кароткім камэнтарам а. д-р Алёізы Брокэ, дырэктар каталіцкае гімназіі ў Аглоне. Назоў працы ў латыскай мове такі: „Jezus Kristus Evangelijs un Apostolu Dorbi". Месца выданьня — Аглона. 1933 г.

**4. Сьмерць першага япіскапа ў Эстоніі.** (Рыга — КАГ. 16.VIII). У Таліне памёр, маючы 63 гады, Я. Пр. япіскап Я. Кукк, першы япіскап Эстоніі. Папа Рымскі пераслаў яму ў часе хваробы апостальскае багаславенства.

**5. Выбары Гэнэрала а.а. Марыянаў. Рым.** На новых выбарах Гэнэрала (навышэйшага кіраўніка) а. а. Марыяне выбралі а. Андрэя Цікоту, супэрыёра ў Друі, па нацыянальнасьці беларуса.

Жадаем новаму Гэнэралу а.а. Марыянаў паводжаньня ў працы і шчасьці на Многія Леты.

# Календар

на м—ц Верасень 1933 г.

**Стары стыль** / **Новы стыль**

Кал. нядз. і сьв. рг.-слав. абр.

| | | |
|---|---|---|
| 1 | Ч | Сымона |
| 2 | П | Маманта |
| 3 | С | Антыпа |
| 4 | Н | **Вавілы** |
| 5 | П | Захара |
| 6 | А | Арх. Міхала |
| 7 | С | Сазона |
| 8 | Ч | **Нар. Прачыс. Баг.** |
| 9 | П | Якіма і Ганны |
| 10 | С | Мінадоры |
| 11 | Н | **Хвядоры** |
| 12 | П | Аўтанома |
| 13 | А | Карніла |
| 14 | С | **Узьдзьвіж. К. Г.** |
| 15 | Ч | Мікіты |
| 16 | П | Аўхэміі |
| 17 | С | Зофіі |
| 18 | Н | **Яўмена** |
| 19 | П | Трахіма |
| 20 | А | Аўстахія |
| 21 | С | Кандрата |
| 22 | Ч | Фокі |
| 23 | П | Пачацьце Сьв. Ів. |
| 24 | С | Тэклі |
| 25 | Н | **Ефрасіні** |
| 26 | П | Івана пр. |
| 27 | А | Калістрата |
| 28 | С | Харытона |
| 29 | Ч | Кірыяка |
| 30 | П | Грыгора |

Kalend. niadz. i św. łacin. abr.

| | | |
|---|---|---|
| 14 | Č | Padw. św. Kryža |
| 15 | P | Nikodama |
| 16 | S | Cypryjana. Eŭfemji |
| 17 | N | **Stygm. św. Fran.** |
| 18 | P | Jazepa. Ireny |
| 19 | A | Januaraha |
| 20 | S | Aŭstachija Suchi dz. |
| 21 | Č | Mateuša |
| 22 | P | Tamaša. Suchi dz. |
| 23 | S | Suchi dz., Tekli |
| 24 | N | **N.Dz.M. Odkupu** |
| 25 | P | Uładysława |
| 26 | A | Cypryjana. Justyny |
| 27 | S | Kuźmy i Dziamjana |
| 28 | Č | Wacława |
| 29 | P | Michała arch. |
| 30 | S | Heronima |
| | | KASTRYČNIK |
| 1 | N | **Jana z Dukli** |
| 2 | P | Anielaŭ Chranic. |
| 3 | A | Taresy Kandyba |
| 4 | S | Franciška |
| 5 | Č | Placyda |
| 6 | P | Brunona |
| 7 | S | Marka |
| 8 | N | **Brygidy. Pałuty** |
| 9 | P | Dyanizaha. |
| 10 | A | Franciška Borg. |
| 11 | S | Brunona. Ziny |
| 12 | Č | Maksymiljana |
| 13 | P | Adwarda |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.